


COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
Прапаведнік
№5
Пераклад:
Артур Барадачоў
Афармленне:
Сяргей Козыраў
vk.com/comics_by


«Нястрымны анал», *калі ласка.*


А?
«Нястрымны анал», калі ласка.
На паліцы, побач з «Жывёльнай спёкай».


Так.
Чатыры пяцьдзесят.
Вось. Ня трэба рэшты. І **добрага вам дня**.
BOOKS TOYS
MAGAZINES
VIDEOS
NOVELTIES
PRIVATE BOOTHS


Да пабачэння!


Забаўны прыдурак...
EXPLODING CHICKEN

Ухххххх...
Уфффф...
Ххххххх...
Напэўна, трэба адрэкамендавацца.
Уфффф...
**Стая-а-аць...**
Я працую ў паліцыі. Маё імя Джон Тул.









Я самы няўдачлівы коп ў свеце.

# МАЛІСЯ ЗА СЁМУЮ КУЛЮ


GARTH ENNIS WRITER STEVE DILLON ARTIST
MATT HOLLINGSWORTH - COLORIST
CLEM ROBINS - LETTERER
JULIE ROTTENBERG - ASSOC. EDITOR
STUART MOORE - EDITOR
PREACHER CREATED BY GARTH ENNIS AND STEVE DILLON


KLIK


**PREACHER** 5. August, 1995. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to PREACHER, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $8.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $8.00 for postage. U.S. funds only.



Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company

Нават партнёры Бруднага Гары больш ўдачлівыя ў параўнанні са мной.



А ну злазь адтуль, маркітун.

Адзіная ўдача ў маім жыцці - гэта мой напарнік, Пол Брыджыс. Файны, разумны, паспяховы, ратаваў маё жыццё з дзесятак разоў...

СУПЕРКОП.

Якога лясуна тыыыХхх?...

А якога лясуна ты ўцякаў?

Ты, лайнюк, паглядзі, што ты зрабіў з маім сябруком! У яго цяпер **УВОГУЛЕ РОЖЫ НЯМА**!

А ну прымі ад мяне свае маркітаваныя **РУКІ**!


Мы можам зрабіць гэта па-добраму ці па-дрэннаму, лайнюк...
Можаш адсмактаць мне, маркітун!

HNNNH!
Не, ты адсмакчы!

Ты прызвычайвайся, таму што, калі трапіш за краты, тваё дзёўбанае меню, будзе складацца выключна са струкоў!
Ты скончыў выдыгацца? Калі так, рохкні два разы.
XXхрXX! XXхрXX!

Добра.

Ты таксама, выблядак, Уставай.
І ўсё гэтае лайно нават ня мае ніякіх адносін да нашай справы.
Можам прышыць ім распаўсюджванне наркотыкаў. Добра, што мы іх заўважылі.
Полі... А ты ня мог бы... быць з ім менш жорсткім, а? Усё ж такі ён у наручніках і нікуды не ўцяцэ...

Мм?
Ведаеш... Добры ты чалавек, Джоні.

Але падчас - такая **БАБА**!

Час прачына-а-аца!

Шшшто... Шшшто...

Божуххна... што адбхываецца?!

А сам як лічыш?

aaah!

Ння... нхя ведаю... апош-шшняе, што... я бхыў у бхары... і... ты... ты...

Тааaак...

Мы балбаталі, так... У цябе толькі скончыўся працоўны дзень... Ты выпіў тры «адвёрткі» і пайшоў на стокі...




Не...


Упэўнены? Нават радзімку на правай шчацэ не прызнаеш?
А?


Во...
Во гххх... **Божухххна**!


2" STEEL NAILS
Каббх цябе... Божууухxна!
AAAAAAAAAAAA!


Усё добра...
Ххх... ххх... ххххх!
Усё-ё до-о-бра... Усё **цудо-о-оўна**...
Хххх!


Зараз вернем на месца.

Значыць, цябе зусім не хвалюе, што яны табе на хвост сядуць? Калі ты не падсмажыўся са сваёй паствай, арыенціроўку на прападобнага Джэсі Кастара ўжо напэўна разаслалі па ўсіх участках.

Як яны даведа-юцца? У царкве засталіся толькі косткі.

Мяркую, што ўсё будзе нармальна.

Ведаеш, для мерцвяка ты паводзіў сябе вельмі нясціпла. Шмат народу бачыла цябе да таго, як мы перасяклі мяжу штата. А яшчэ, на ўездзе ў Місісіпі, ты пазнаёміўся з кіроўцам таго грузавіка.

Лічыш, на поўдні мала Джэсі? Ды гэты фермер быў п'яны ўшчэнт. Ці наўрад ён нават нагадае, што бачыў нас.







Таму што ў Даласе рабілася гарачавата?
А, час **ПАГУТАРЫЦЬ**, так? У такім выпадку давай пачнем з таго, як ты кінуў мяне ў Феніксе пяць гадоў таму, прычым абсалютна на мелі...
На мелі? У цябе былі ўсе маркітаваныя грошы!


Дваццаць сем баксаў! Я дадому дабіралася на дзёўбаным **ТАВАРНЯКУ**!
Відавочна, гэта і падштурхнула цябе на коўзкую сцяжынку...
Дзеці... дзееці мае! Каб вас!
Мой дружа зараз прыйдзе, памятаеце? Паводзьце сябе добра.
...
А нагадай, як яго імя?


Сай. Ён табе спадабаецца, Дзёўбаны нябесны вандроўнік.
Ён зарабляе тым, што піша артыкулы на розныя тэмы, ды яшчэ сапраўды звар'яцелы на гэтым містычным лайне - прывідах, лятучых талерках і гэтак далей. Таму, магчыма, у яго ёсць штонебудзь на нашага хлопца.


Фанатык, звар'яцелы на талерачках, дапаможа нам знайсці **Бога**?
Больш за ўсё яму падабаюцца рэлігійныя феномены: рыдаючыя статуі, стыгматы, з'яўленне святых нявінніц... Калі наш Пастыр Добры дзе-небудзь засвяціўся, у Сая на яго будзе матэрыял. І я магу папрасіць яго зрабіць ласку, не тлумачачы, навошта мне гэта трэба...
Але, калі ты можаш прапанаваць што-небудзь лепей, мы будзем **гамон** як радыя выслухаць цябе. Пайду толькі выпіўку вазьму.


Хлопец можа дапамагчы, і я яго выслухаю. Чым хутчэй я разбяруся з гэтым лайном, тым лепш, зразумела?
Зразумела. Толькі не кажы яму сваё імя.


Твая матуля
і дагэтуль адсмактвае
за пяць цэнтаў?


Не-е. З таго часу,
як я павыбіваў ёй ўсе
зубы, яна бярэ дзесяць.
А ў мяне
толькі пяць...
За пяць тата можа
пагадзіцца.
Добра, чорт
з ім. Я сястру
папрашу.


ЛАЙНЮЮЮЮЮЮК!


Сукін сын, маркітун, як твае **СПРАВЫ**?
Ах ты **ВЫБЛЯДАК**!
А сам як, быдла
разбэшчанае?
Стары брахун!
Гамон як я рады
цябе бачыць!
Вечар перастае
быць млявым...
Дзяўчыне
не зразумець.


Сай, гэта Цюліп і Джэсі. Зараз прынясу табе выпіць.
Вітаю.
Вельмі прыемна, Цюліп. Джэсі, а каўнерык сапраўдны?
А як жа.


У такім выпадку прашу прабачэння за мой маркітаваны язык...
Нічога. Нашая царк-ва не залічвае брыдкаслоўе да ліку смяротных грахоў.
Якая палёгка! Я, уласна кажучы, вельмі рады сустрэцца з вамі. Мы з гэтым сяруном пяць гадоў ня бачыліся.
Пашанцавала!


Кэс - каларытны персанаж, так?
Віскі з лёдам. Дык як ты пажываеш?


Воох... Кручуся як у коле вада. На мінулым тыдні я зразумеў, што з'яўляюся проста **ўвасобленым ідэалам** адпярдоленага жыццём журналюгі...
Мае выдаўцы равуць на мяне за тое лайно, што я ня здаў учора: мая кватэра па калена засыпаная парожнімі бутэлькамі і пачкамі з-пад цыгарэт.
Добрая навіна: у хаце няма пацукоў. Дрэнная навіна: гэтых выродкаў пажралі **ПРУСАКІ**.


Ты ўсё яшчэ пішаш, так? І над чым працуеш?
О, табе спадабаецца...


Мой надзённы хлеб - **Праныра-Жывапыра**.

Што?
**Хто**?!

**Тэлевізар** не глядзіш?

Не-а.

Ляснуцца можна. Увогуле. Два тыдні таму нейкі маркітун пачынае выкрадаць людзей, адразаць у іх лёгкапазнавальныя часткі цела і рассылаць іх сваякам ахвяраў. Рукі, там, сківіцы...

Потым адзін прыдурак у слупку навін называе маньяка **Пранырай**, ну ўвогуле, трэба ж яго як-небудзь назваць. Але потым, другі прыдурак вырашае, што наш хлопец будзе **Жывапырай**. Ніводная газета не пажадала здавацца. І ў выніку...

**ПРАНЫРА - маркітаваны - ЖЫВАПЫРА!**

Пралезе ва ўсе дзіры.

Гэй, ды вось жа! Па тэліку!









Слухай, мне шкада наконт...

Аб чым гэтыя два гутараць?

Сай пашукае для нас Бога. Ён мяркуе, што робіць ласку асабліва Кэсу, і ня будзе задаваць пытанняў.

А калі ён усё ж паспрабуе?

Не жадалася б хлусіць. Сай - разумный хлопец, па вачах бачна...

Дык я спыніўся на...

Вы з Кэсам пасябравалі вельмі моцна і хутка, так?

Ну... так. У нас агуль-нае пачуццё гумару ...

А як жа. Глупае і нездаро-вае...

Слухай, я тут спрабую папрасіць прабачэння. Ты ніяк не жадаеш палегчыць мне задачу, так?

Я не жадаў заводзіць размову пра Далас. І я **РАСТЛУМАЧУ**, чаму я кінуў цябе, хутка, проста мне трохі складана, таму што гэта датычыцца таго лайна, пра якое я нават **ПРЫГАДВАЦЬ** не жадаю...

Добра?

Добра. Усё гучыць вельмі разумна.

Гэй, дарэчы. Мабыць, калі вернемся ў гатэль, здадзім ключы ад асобных нумароў і возьмем нумар на дваіх? Мы столькі часу згубілі...

Сапраўды?...

Толькі ў тваіх марах.

Гэй, рабяты, мне шкада пакідаць вас, але трэба яшчэ шмат лайна пералапаціць. Хутка ўбачымся, так? Калі я пакапаюся ў сетцы і знайду тую рэч, што патрэбна Кэсу.

Безумоўна. Поспехаў, Сай!

Было прыемна пазнаёміцца.

Э-э... у «сетцы».

Так. Ён яшчэ і камп'ютэрны геній.Таленавітае дзіцянё!

Твая матуля таксама так кажа.

Да сустрэ-чы!

Што зараз збіраецеся рабіць?











Імя?

Ідзі да ліхааатары!






ІДЗІ ДА ЛІХАААТАРЫ!

Полі...

ІДЗІ ДА ЛІХАААТАРЫ! АДЧАІІІ..

Не зарабіў бонусаў на супрацоўніцтва, маркітаваны **ЛАЦІНАС**!

**ААААААА!**

А я лічыў, што мы ўжо акрэслілі, хто пярдоліць, а хто дупу падстаўляе. Бачна, я памыляўся!

**Ннххх... ААААААА!**

І зараз трэба дамовіцца нанова. Ты не спяшайся, абмяркуй усё важка! А як толькі пажадаеш ветліва пагутарыць з маім напарнікам - толькі скажы, не саромейся.

Бyyyy супрацоўўўўўчхць!!!

Грамчэй!

**Бyyyy супрацоўўўўўчхць!!!**

І ён сапраўды супрацоўўўўўчххае. Ён настолькі заўзята супрацоўўўўўчххае, што адразу ж здаў нам свайго пастаўшчыка. Сапраўдная залатая жыла, а гэта нават ня наша справа.

Так заўсёды атрымліваецца, калі побач Полі Брыджыс.

Здаецца, гэта адзіная прычына, чаму я яшчэ не згубіў працу. Я маю на ўвазе, што з такім напарнікам нават такое непаразуменне як я, будзе выглядаць вельмі нядрэнна.

У адзіночку я б нават ня здолеў кучку вулічнай шпаны...

Я, праўду кажучы, ніколі і не спрабаваў.

Не сварыцеся, дзеткі.

Падобна на Джыма Керы, у якога з вока чэлес тырчыць...

Вох уж гэты Брыджыс! Файны!

А памятаеце, як ён засунуў хлопца ў...

Гэта лухта. Слухайце сюды.


Выклік увосень мінулага года. Забойства. Брыджыс зводзіць рахункі з дзвума сярунамі, трэццяга бярэ. І якраз калі ён надзявае наручнікі на свайго падазрона-га, з хаты выносяць цела паліцэйскага...
А ў хлопца ўвесь жывот раскурочаны. Дванаццаты калібр, ва ўпор. Мясная піца з пепероні і двайным кетчупам спачывае...
Брыджыс зашчапляе наручнікі. Потым хапае няшчаснага лай-нюка і тыцкае яго мурлом у **МАРКІТАВАНУЮ РАНУ**!
Каб цябе...
А яго напарнік, як яго...
Тул? Ён **існуе** толькі таму, што Брыждыс адмаўляецца насіць бронекамізэльку.
Такі **ПІДАР**, што можа падазронага максімум у **БІДЭ** тыцкаць.
Вып'ем піўка па дарозе дадому?
Чаму не. Зараз ужо вельмі позна, для таго, каб лавіць нашага паганца, так?
Нічога падобнага, Джоні!
Гэта рабіць ніколі ня позна.


У іх быў толькі «Будвайзер».


Бясспрэчна, калі б ты сам зазірнуў да іх і папрасіў каністру «Дом Пэрыньён», табе б ніхто ня змог адмовіць, ведаеш?
Мм.


І зноў жа, можна было б прагуляцца да «Рытца» і, калі б ты папрасіў там парачку люксаў, мы б не тырчалі ў вашывым клапоўніку на Другой авеню...
Можна было б.
Дык у чым справа?


Так ня пойдзе.


А як пойдзе? Дзякуй.
Гэта пытанне адказнасці.
Мабыць, гэта файна.


Я шукаю Бога, таму што мяркую, што ён пакінуў дзяцей сваіх. Мая мэта – заклікаць яго да адказнасці за гэтую маленькую правіннасць, зазірнуць яму ў вочы і паслухаць, як ён будзе апраўдвацца.
Ён быў абавязаны паклапаціцца пра свет, які ён стварыў, і пра людзей, якімі засяліў яго. Уцёкшы і ўсё кінуўшы, ён давёў, што ў яго цалкам адсутнічае пачуццё абавязку.


І калі я пачну камандаваць людзьмі, выкарыстоўваючы гэты **ДАР**, што зваліўся мне на галаву, проста дзеля таго, каб жыць ледзь весялей... Хто я буду такі, каб размаўляць пра пачуццё абавязку?
Атрымаў здольнасць - выкарыстоўвай яе разумна.
І ты сур'ёзна лічыш, што гэта яго планета і ўсе гэтыя цудоўныя людзі, якія яе на-сяляюць, сапраўды каштуюць таго часу і сіл, што ты на іх страчваеш?
Увогуле, Кэс...
Сапраўды, я так лічу.




А яшчэ, я мяркую, гэта тлумачыць, чаму ў цябе і тваёй дзяўчыны асобныя пакоі.
Дзякуй, што нагадаў.


Ты, бясспрэчна, будзеш жудасна шакіраваны, пачуўшы гэта, але я прызнаюся: калі служыш святарам у вашывым гарадку ў дупе Тэхаса, у цябе вельмі мала магчымасцяў паклосьцівіцца.
А я лічыў, што на гэты твой каўнерык вяхоткі бяруцца толькі так...


Што?
Ах так, пад вяхоткамі я маю на ўвазе...
Я зразумеў.


Мой каўнерык заўсёды падабаўся толькі аднаму тыпу дзяўчын: тым, якія б жадалі завесці сям'ю ўжо ў семнаццаць гадоў. Такім добрым, спакойным, працавітым...
З рожай як у бульдога, які лайна з крапівы налізаўся...


Я табе вось што скажу: калі б гэтая абсалютная ўлада мяне разбэшчыла, то гэта было б першай маркітаванай абсалютнай разбэшчанай рэччу, якую я б зрабіў.
Але зараз я лічу, што спроба прымусіць Цюліп здзяйсніць палавы акт супраць яе волі з'яўляецца недаравальным грахом, за які я быў бы асуджаны вечна гарэць у пякельным полымі. Таму, пакуль да яе ня вернецца розум, я проста буду працягваць жыць з зарокам бязшлюбнасці...


І гамон якім стаяком, якім можна сцяну прадзяўбці.


Гэта сапраўды ўражліва.


Тут пачынае здавацца... Ну вось ведаеш, усе гэтыя фільмы, што знялі пра гэтае месца... Здаецца, што кожная гісторыя, якую паказалі ў кіно, сапраўды адбылася недзе там, унізе, на пазаліваных дымам і электрычнасцю вуліцах.
І калі стаіш тут, і перад табой адкрываецца гэты краявід, з'яўляецца такое пачуццё... быццам ты можаш усё.
Так.


Я прыкладна адчуваў тое ж, калі першы раз трапіў сюды.
Увечары, у дзень адкрыцця.


Хлусіш?
Не-а. Я п'янстваваў з парай сяброў у адной мясцінцы ў Квінсе, і бармэн сказаў, Эмпайр-Стэйт-Білдынг адкрылі для наведванняў.
Мы былі вымушаныя прадзірацца праз натоўп цэлы век, але, праклён, гэта таго каштавала.


Ды колькі ж табе **ГАДОЎ**?
Я аднагодак стагоддзя, сябра.

Гэта толькі адна са шматлікіх пераваг, павер мне.

Ідэальны зрок, нюх, як у сабакі-сышчыка, сотню прабягаю за пяць секунд... Магу выпіць бочку піва і прайсці па прамой не пахіснуўшыся, і, дарэчы, адправіць у накаўт Тайсана, пакуль раблю гэта.

І яшчэ... Я табе зараз пакажу...

Што?..

Хутчэй, чым на ліфце, боскі чалавек! Убачымся ўнізе!

Якога лясуна ты чыніш?! **ЗЛАЗЬ АДТУЛЬ**!







Павеееееерыў!


CHRISTOPHER ST
ONE
ONE WAY
Брыджыс. Пакіньце паве-дамленне. Не марнуйце мой маркітаваны час.
БІ-І-ІП!


Полі, гэта Джон... э-э... я, здаецца, згубіў ключы ў тваёй машыне, я не магу ўвасці ў кватэру... э-э... я табе пераздваню.
БІ-І-ІП!


Прывітанне, дэтэктыў Брыджыс...


Вы жадаеце зрабіць...
...гэта...
...яшчэ раз?


БІ-І-ІП!